# Капішча на Бабінай гары



Лясы Барысаўшчыны на сённяшні час утрымліваюць у сябе яшчэ шмат таямніцаў. Нямала аб'ектаў старажытнасці чакаюць свайго адкрыцця ці звароту да іх даследчыкаў. Адно з такіх месцаў - Бабіна гара каля вёскі Хрост.

Тут, на невялічкім узвышшы, усталяваны вертыкальна камень з высечаным крыжом і нейкімі знакамі. Вакол каменя па крузе ўкладзены больш дробныя камені. Згодна існуючаму паданню на гэтым месцы калісьці замерзла жанчына. Таму і быў тут усталяваны камень, а само ўзвышша атрымала назву Бабіна гара. Аднак наўрад ці гэтае паданне грунтуецца на пэўных гістарычных падзеях. Усё тут - размяшчэнне каменняў, дахрысціянская форма крыжу, нанесеныя пад ім знакі і назва гары гавораць аб тым, што гэта былое паганскае капішча.

На жаль, ніхто зараз не можа растлумачыць ні прызначэнне капішча, ні нават сэнс высечаных знакаў. Яшчэ болей таямніцы дадае той факт, што неяк выпадкова на гары каля каменя з крыжом былі выяўлены рэшткі падмурка ці ва ўсялякім разе нечага вельмі падобнага на падмурак. Пры гэтым вядома, што апошнія стагоддзі тут не было ніякіх пасяленняў, храмаў ці іншых збудаванняў.

Шмат пытанняў узнікае пасля знаёмства з капішчам на Бабінай гары. Яго даследаванне магло б нам даць вельмі каштоўныя звесткі аб былых жыхарах нашага краю. Зараз упэўнена можна казаць толькі тое, што яно з'яўляецца ўнікальным помнікам старажытнасці не толькі для Барысаўшчыны, але і для Беларусі наогул.

*М.Мацельскі*

# Кажуць, што было так...

У адным з мінулых нумароў ГБ было надрукавана паданне аб Глухім возеры. Сёння мы працягваем знаёміць нашых чытачоў з паданнямі нашага краю і прапануем вам паданне аб утварэнні возера каля вёскі Дубяні, якое запісана ад тамтэйшых старажылаў.

Калісьці вёска Дубяні была багатая і знаходзілася на тэрыторыі сённяшняга возера. Неяк Бог вырашыў праверыць жыхароў вёскі. Дзеля гэтага ён спусціўся на зямлю, апрануўся ў лапці і ўсё простае і пайшоў як звычайны чалавек па вёсцы. Ён абышоў усю вёску, прасіў, каб яму далі паесці, але ніхто незнаёмцу нічога не даў. Толькі ўдава - салдатка сказала, што ў яе нічога няма, ёсць толькі юшка. Дала яна яму паесці юшкі і тры бульбы. Тады Бог вырашыў аддзякаваць ёй і сказаў, каб яна пайшла за ім, а саму вёску ён патопіць. Але Бог папярэдзіў жанчыну, што нельга ні ў якім разе абарачвацца і глядзець, як будзе затапляцца вёска. У адказ жанчына сказала, што адна яна не пойдзе, бо мае дзіцёнка. Бог дазволіў, каб яны ішлі разам.

Пайшла ўдава з дзіцёнкам за незнаёмцам. Толькі яны трошкі адышлі, як за спіной у вёсцы сталі раздавацца шум, трэск, крыкі. Не вытрымала жанчына, захацела паглядзець, што там адбываецца. Яна нахілілася і зрабіла выгляд, што папраўляе абутак, а сама незаўважна глянула паміж сваіх ног на вёску. Бог убачыў гэта, раззлаваўся і ператварыў жанчыну і яе дзіцёнка ў камень. Гэты камень і па сённяшні дзень знаходзіцца каля возера, але зараз ён ужо амаль цалкам увайшоў у зямлю.

*Падрыхтаваў А.Барэвіч*

# Чалавек, у якім жыве спадчына

***Не так шмат на Барысаўшчыне людзей, якіх можна было б аднесці да беларускай (менавіта да беларускай!) інтэлігенцыі. Прафесійны мастак Мікола Рыжы - адзін з тых вельмі нямногіх, хто прысвяціў жыццё захаванню духу Беларусі.***



Пры першай сустрэчы больш за ўсе ўражвае аблічча Мікалая - так у падручніках звычайна выглядаюць прадстаўнікі беларускай шляхты. Але галоўнае тое, што мастак беларус у душы.

У майстэрні, дзе ён працуе, змешчана выява герба Пагоня, якую мастак зрабіў сваімі рукамі.

Скульптурная выява старажытнага герба - лепшая ілюстрацыя рознабаковасці Міколы Рыжага як творчага чалавека. Акрамя асноўнага напрамку сваёй дзейнасці - графікі - ён працаваў як мастак-афарміцель пры падрыхтоўцы некаторых беларускамоўных выданняў. Мікалай - аўтар шматлікіх беларускіх паштовых марак і аўтар першай беларускай маркі міжнароднага ўзору. Як майстра жанру экслібрыса яго ўвогуле ведаюць далека за межамі нашай краіны. Так вельмі вядомы сярод беларусаў часопіс «Полацак», які ведае амаль кожны беларус-эмігрант і з'яўляецца выданнем беларускага культурна-асветніцкага цэнтра ў Кліўлендзе, звярнуўся да яго з просьбай падрыхтаваць партрэты вядомых беларускіх дзеячаў. І Рыжы зрабіў. Зрабіў так, што зараз гэтая праца стала сусветна вядомым прыкладам яго дзейнасці. Акрамя ўсяго вышэйпералічанага, Мікола таленавіты дызайнер, хоць ён і не лічыць гэта за талент. Але яго кватэра і майстэрня, дзе ўсе зроблена яго рукамі, уражваюць.

Нарадзіўся будучы мастак у вёсцы Уцеха. З маленства размаўляў на беларускай мове, гадаваўся на культуры і традыцыях беларускай вёскі. Таму, калі паступіў на факультэт графікі Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута, дзе амаль усе размаўлялі на рускай мове, ён не раз і не два адстойваў свой гонар беларуса. Мо таму зараз ён такі ўпарты ў пытаннях годнасці ўсяго, што датычыцца Беларусі?

Аднойчы ён папрасіў мяне перакласці з ангельскай мовы ліст, які прыйшоў яму з Польшчы. Ліст аказаўся чарговым запрашэннем на міжнародны конкурс Майданэк. Мікалай не аднойчы браў удзел у гэтых конкурсах і міжнародных выставах, таму выявы яго малюнкаў можна сустрэць і ў вельмі прэстыжных сусветных каталагах.

Але трэба ведаць Рыжага. Мікалай не такі чалавек, каб супакоіцца на дасягнутым. Зараз ён пачынае працаваць у новым для сабе жанры жывапісу. І ў яго атрымаецца. Не можа не атрымацца.




*С.Нялюбін*













Сядзібны дом


Былая капліца


Перабудаваны будынак царквы. Зараз не існуе


Свіран. Знішчаны ў 1999 годзе

# Забыты маёнтак

На Барысаўшчыне захавалася не шмат помнікаў драўлянага дойлідства. Сярод іх вылучаецца комплекс збудаванняў маёнтка Цюндзявіцкіх у Кішчынай Слабадзе. Да таго ж сам род Цюндзявіцкіх пакінуў багаты след у гісторыі не толькі нашага краю, але і Беларусі наогул. Газета «Гоман Барысаўшчыны» ўжо ўзгадвала на сваіх старонках Міхала Цюндзявіцкага, які быў адным з бліжэйшых паплечнікаў Кастуся Каліноўскага падчас паўстання 1863 года і Ганну Цюндзявіцкую, якая ў 1848 выдала кнігу «Літоўская гаспадыня».

Да нашага часу ў Кішчынай Слабадзе захоўваліся панскі дом, капліца, свіран і асобныя іншыя будынкі. Усе яны, верагодна, былі ўзведзены напрыканцы XVIII - пачатку XIX стагоддзяў (панскі дом - у 1818 годзе). Яшчэ некалькі год таму захоўваўся будынак былой царквы, які яшчэ ў 1936 годзе быў перароблены пад клуб. Але сярод усіх гэтых будынкаў вылучаўся свіран. Менавіта ён сваім аблічам утвараў атмасферу старажытнасці, прывабліваў сваёй натуральнасцю і непаўторнасцю. Роўным яму па значнасці помнікаў драўлянага дойлідства на тэрыторыі Барысаўскага раёна не было. Відаць не будзе памылкай сцвярджаць, што свіран з Кішчынай Слабады з'яўляўся адным з найбольш цікавых падобных помнікаў на Беларусі наогул. Сёлета падчас рэканструкцыі дарогі свіран быў знішчаны...

Кішчына Слабада з'яўляецца вельмі цікавым месцам. Тут у народнай памяці захавалася шмат чаго аб мінуўшчыне сваёй малой Радзімы. Вам раскажуць і аб старых назвах тутэйшых мясцін, са здавальненнем пакажуць, дзе раней быў «дзядзінец», «места», «ліпнікі», распавядуць пра тое, як выглядаў раней маёнтак, дзе была лякарня, сырабойня, лядоўня і інш. Не забудуць расказаць аб прагнасці тутэйшага пана Мірука. Кажуць, што неяк ён з іншым панам быў у Жыцькава. Там у Мірука ўпала 5 капеек і закацілася пад лаву. Каб дапамагчы Кішчына - слабадскому пану і выказаць да яго пагарду, другі пан падпаліў пяцірублёвую купюру і свяціў ёй пад лавай... Раскажуць вам і аб трактары, які неяк праваліўся ў падземны ход на тэрыторыі маёнтка, ды шмат што яшчэ.

Здавалася б, што такое цікавае месца павінна было ахоўвацца, яго традыцыі і паданні - шанавацца і захоўвацца. Кішчына - Слабада магла б стаць вядомай далёка за межамі нашага краю, яшчэ адной падставай для гонару ім. Замест гэтага мы ў чарговы раз прайшліся па нашай спадчыне бульдозерам.

*М.Мацельскі*

# Роднага слова вытокі

Самыя шчырыя пачуцці, самыя пранікнёныя словы - паміж маці і дзіцем. Глыбінныя, найчысцейшыя вытокі душы ахінаюць і мацуюць іх непарушную еднасць. Матуля схілілася над калыскай , матуля заспявала калыханку - дзіця прамовіла слова. Роднае слова...

Ранішнік у дзіцячым садку №28, прысвечаны Дню маці, дзеці старэйшай групы разам з выхавацельніцай Святланай Іванаўнай Юркевіч рыхтавалі з асаблівым стараннем. Вельмі ж хацелася ім дагадзіць матулям, якія былі запрошаны на гэты дзень у госці.

Матулі прыйшлі і ў чаканні найдаражэйшага падарунка - дзіцячых удзячных словаў - выглядалі таксама ўсхваляванымі.

Словы гучалі родныя, беларускія. Пяшчота і глыбіня бабулінай калыханкі,якую носіць у сваім сэрцы выхавацельніца,пранікнёнасць дзіцячай песні пра матуліны рукі.

Аказалася, што мамы таксама прыйшлі не толькі паглядзець ды паслухаць, але і паўдзельнічаць у святочнай праграме - паспяваць беларускіх песень, пачытаць вершаў, а таксама расказаць пра поспехі і таленты сваіх сыноў і дачушак. Апошнія ж у пацвярджэнне матуліных словаў не прамарудзілі таленты дэманстраваць. Літаральна на вачах у гасцей яны зрабілі цудоўныя аплікацыі з саломкі і падаравалі іх на памяць аб святе.

Канешне, падобны на гэты ранішнік можна было паназіраць у той дзень і ў любым іншым гарадскім садку. Але, безумоўна, далёка не ў кожным з іх трапілі б мы ў беларускамоўнае асяроддзе, якое пануе ў гэтым калектыве - як педагагічным, так і ў дзіцячым і бацькоўскім. І тым больш гэтая акалічнасць заслугоўвае ўвагі, што выхоўваюцца ў 28-ым садку, падведамасным заводу пластмасавых вырабаў, звычайныя дзеці звычайных бацькоў.

Загадчыца садка Лідзія Міхайлаўна Лобань знарок вельмі падрабязна расказвае гісторыю пераарыентацыі выхавання на нацыянальныя каштоўнасці, распачатай ею разам з педагагічным калектывам яшчэ ў 1990 годзе, каб падкрэсліць, што не менш важна, чым гэты працэс распачаць, было пасля не адступіцца, не здрадзіць сваім чалавечым і педагагічным перакананням і змагчы пераканаць іншых.

Перакананні самой Лідзіі Міхайлаўны ідуць з глыбіні яе сялянскай народнай натуры і мацуюцца гаючым водарам роднай зямлі. Адпрацаваўшы шмат гадоў у Лошніцкім садку-яслях і пабачыўшы, наколькі натуральна і разумна не адвучваць дзіця ад роднага слова, пачутага ўпершыню ад маці і бабулі, не пазбаўляць яго права быць тым, кім ён нарадзіўся, Лідзія Міхайлаўна вырашыла, што гэтак жа патрэбна выхоўваць і гарадскіх дзяцей,бо якраз яны ўжо з калыскі аказваюцца адарванымі ад нацыянальнага асяроддзя.

У 1990 годзе (а на той час Л.М.Лобань была ўжо загадчыцай садка) яе чалавечыя і педагагічныя памкненні шчасліва супалі з палітыкай нацыянальнага адраджэння ў краіне, якая ўзняла тады ў грамадстве хвалю аптымізму і самых светлых надзей.

У садку актыўна пайшоў працэс пераарыентацыі выхавання і навучання на беларускую мову. Тое ж самае і ў базавай сярэдняй школе № 2. Паколькі з педагагічнымі кадрамі праблемы не было, ды і іншыя работнікі садка не палічылі для сябе за цяжкі абавязак вывучэнне мовы, то праз непрацяглы час беларускасць заняла сваё месца ва ўсіх сферах дзейнасці садка. Тут нават не прамарудзілі з перавядзеннем на беларускую мову дакументацыі, уключаючы нават медыцынскую і бухгалтарскую.

Не ўзнікла на той час і праблема адносін бацькоў да беларускамоўнага навучання сваіх дзяцей. Складанасці пачаліся пазней - пасля заканчэння абвешчанага двумоўя. Спешнае вяртанне школ да рускамоўнага навучання,у тым ліку і сярэдняй школы №2, куды рыхтаваліся ісці выхаванцы садка, выклікала ваганні і сумненні ў бацькоўскім асяроддзі.

Аб тым, як быць, думалі і разважалі доўга. Адцурацца ад ідэі нацыянальнага выхавання, на той час стала прафесійным і чалавечым крэда не толькі загадчыцы, але і ўсяго калектыву, было немагчыма. Але не лічыцца з рэальнымі ўмовамі - таксама. Заставалася шукаць кампрамісны варыянт, які і быў знойдзены ў выглядзе спалучэння беларускамоўнага навучання ў цэлым і выкладання асноўных прадметаў - матэматыкі і граматыкі -па-руску.

-Мы ж людзі памяркоўныя,- адзначае Лідзія Міхайлаўна,- няхай сабе будзе і рускае слова. У нас цяпер так: адзін ранішнік праводзім на беларускай мове, а другі на рускай. Таму і не крыўдзіцца ніхто.

Тым, што знойдзены добры кантакт з бацькамі, у калектыве наогул вельмі ганарацца. Тэатралізаваныя прадстаўленні з удзелам бацькоў, выробленыя іх рукамі касцюмы, цацкі,- усё гэта сведкі добрых узаемаадносін ва ўдасканаленні працэсу выхавання.

Пасля наведвання заняткаў у групах пачынаеш разумець, што бацькам сапраўды ёсць чаму радавацца. Поўнае ўзаемаразуменне з выхаванцамі малодшай групы у маладой выхавацельніцы Святланы Валянцінаўны Пазняк. Цікавая метадычная распрацоўка заняткаў дапаўняецца добрым веданнем беларускай мовы, раскаванасцю і здольнасцю праяўляць фантазію, без чаго, бадай, ніяк нельга зацікавіць дзяцей гульнёй, у працэсе якой яны вучацца лагічна мысліць і гаварыць.



Калі ж гаварыць аб канкрэтных выніках беларускамоўнага навучання, то найбольш прыкметныя яны ў выхаванцаў старэйшай групы. Пакуль разам з выхавацельніцай Наталляй Іванаўнай Мароз яны вучылі верш пра восень, апісвалі восеньскі пейзаж, можна было заўважыць добрае беларускае вымаўленне і дастатковы слоўнікавы запас.

Узровень падрыхтоўкі і правядзення заняткаў сведчыць аб добрай метадычнай базе. Метадыст садка Ларыса Віктараўна Голдышава, якая нібыта лоцман арыентуецца ў цэлым моры матэрыялу, размешчанага ў метадычным кабінеце, тлумачыць, што ўсё гэта багацце збіралася і ўпарадкавалася многія гады. Захоча, напрыклад, выхавацель правесці серыю заняткаў па развіццю мовы з выкарыстаннем прыёмаў народнай педагогікі - знойдзе ў кабінеце неабходныя распрацоўкі. Будзе ў яго жаданне дзецям аб беларускіх народных прыкметах расказаць, пачытаць народныя казкі - таксама калі ласка.

Канешне, каб набываць неабходную літаратуру, выпісваць прафесійную перыёдыку, патрэбны цяпер немалыя

(Працяг на 7-й стар.)



